Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ і КАНТОРА
г. Менск,
Дом Урада,
леваекрыло, 4 паверх,
комн. № 405.
тэл. № 23-287.

№ 28 | Год выдання 1-ы — 20 кастрычніка 1935 г. | № 28

## ПРАДАВАЦЬ МЯСА КУЛЬТУРНА!

Рашэнні партыі і ўрада аб зніжэнні цэн і адмене картачнай сістэмы на прадукты харчавання ўскладаюць на ўсе гандлюючыя арганізацыі адказнейшыя задачы па перабудове ўсёй тэхнікі гандлю харчовымі таварамі.

Гандаль мясам і мясапрадуктамі па сваей спецыфіцы адрозніваецца ад многіх прадуктаў і павінен быць арганізаван па-новаму.

Калі да 1-га кастрычніка ў Менску налічваліся тры гандлёвыя адзінкі па продажу мяса з прапускной здольнасцю 1000 *кг*, у дзень, то з 1-га кастрычніка гандаль мясам праводзіцца ў 13 пунктах з штодзённай прапускной здольнасцю 4—5 тысяч *кг*. Да гэтага трэба дадаць вялікую колькасць гатункаў і відаў мяса, як па ўпітанасці, так і тэрмічнай апрацоўцы (ахладжонае, замарожанае): гавядзіна, свініна, бараніна, збой птушка і інш. Спажывец прадяўляе на мяса усё большы і большы попыт.

Абсталяванне рабочых месц, санітарна-гігіенічнае становішча, арганізацыя падсобных памяшканняў і дыслокацыя сеткі—знаходзяцца ў параўнальна здавальняючым становішчы.

Аднак, гандаль мясам страдае яшчэ многімі недахопамі. Не заўсёды магазіны забяспечаны дастаткова поўным асартыментам мяса: ёсць гавядзіна, няма свініны, ёсць жырнае, няма сярэдняй упітанасці. Пры разрубцы мяса не прытрымліваюцца схемы гатунковага разруба, прапанаванага Галоўмясам. Часта разруб абезлічан—кожны прадавец рубіць па свойму. Адгэтуль—неправільнае аднясенне паасобных частак мяса да таго ці іншага гатунку, што вядзе да абмана спажыўца, а з другога боку спажыўцу часта даецца кавалак мяса, які не адпавядае свайму кулінарнаму прызначэнню.

На мясакамбінаце таксама маюцца непаладкі. Тут загадчыкі магазінаў часта прастойваюць днямі, кожны загадчык вядзе „барацьбу“ за першачарговасць і атрыманне лепшых гатункаў мяса.

Разгорнуты гандаль мясам ва ўмовах значнга зніжэння цэн і адмены нармавання патрабуе адмаўлення ад старых метадаў гандля, калі спажывец ад зін ці два разы на месяц атрымліваў свой паёк. Зараз спажывец штодзённа купляе мяса ў неабходнай яму колькасці і якасці і натуральна, што ён жадае штодзённа мець свежае, высокаякаснае мяса.

Усе даныя для поўнага задавальнення попыта спажыўца ў нас маюцца. Трэба толькі сур'ёзна працаваць над палепшаннем гандля мясам, над рацыяналізацыяй гандля.

Наркамунутгандль з першых дзён адмены картачнай сістэмы займаецца практычнымі пытаннямі гандля мясам. Праведзенае абследванне пагатунковага разруба мяса падцвярджае, што амаль 9/10 прадаўцоў-мяснікоў мала знаёмы з правільнай разрубкай мяса.

Выходзячы з практыкі гандля мясам за першую дзесяцідзёнку, Наркамунутгандль БССР прыняў рад канкрэтных мерапрыемстваў па ўпарадкаванню гэтай справы.

Уся сетка, якая гандлюе мясам, разбіта на дзве групы, з якіх першая група ўключае два магазіны, якія праводзяць гандаль, галоўным чынам, вышэйшымі гатункамі і відамі мяса і маюць у сваім асартыменце таксама іншыя віды і гатункі мяса. Уся астатняя сетка ў асноўным будуе свой асартымент, арыентыруючыся на мяса сярэдняй і ніжэй сярэдняй упітанасці.

Складзены паасобныя прэйскуранты на мяса сярэдняй і ніжэй сярэдняй упітанасці ўсіх гатункаў, а таксама асобны прэйскурант на асобыя гатункі мяса, куды ўваходзіць: мяса жырнае і вышэй сярэдняй упітанасці, вырэзка, гавяжжа мякаць, мясны фашыр і т. д. Усе агульныя прэйскуранты цэн, якія ахопліваюць усе віды мяса і розныя гатункі з магазінаў забіраюцца.

Гандлюючым арганізацыям прапанавана вызначыць у кожным магазіне высока-кваліфікаваных спецыялістаў, сталых рубшчыкаў мяса, на якіх ускладзена ажыццяўленне важнейшага вучастка—правільны разруб мяса, згодна рэкамендаванай схемы.

Гэтыя мерапрыемствы дадуць магчымасць пакончыць з абязлічкай і забяспечыць далейшае палеп-

шанне абслугоўвання спажыўца і, што асабліва важна,—ажыццявіць кантроль.

Побач з гэтым была рэкамендавана разліковая табліца, якая вызначае кошт рознага віда мяса і гатункаў пры рознай вазе. Такая табліца будзе служыць добрым дапаможнікам для прадаўцоў, значна аблягчыць разлік з спажыўцамі і гарантуе ад магчымых памылак і злонамераных аблікаў спажыўца.

Але ўсе гэтыя мерапрыемствы яшчэ далёка не вычэрпваюць усёй многастайнасці пытанняў, якія павінны быць вырашаны для далейшага палепшання гандля мясам.

Прадстаіць вырашэнне такіх пытанняў, як матэрыяльна-тэхнічная база, далейшае пашырэнне сеткі, упарадкаванне ўзаемаадносін гандлёвай сеткі з мясакамбінатам і інш.

У бліжэйшыя дні Наркамунутгандаль склікае шырокую нараду з удзелам спецыялістаў—рубшчыкаў, загадчыкаў магазінаў, прадстаўнікоў ад мясакамбіната і Дзяржаўнай санітарнай інспекцыі па якасці для распрацоўкі рада далейшых практычных мерапрыемстваў.

Трэба памятаваць, што кіраўнікі гандлюючых арганізацый і загадчыкі магазінаў нясуць вялікую, не толькі гаспадарчую, але і палітычную адказнасць за правільную арганізацыю і палепшанне гандля мясам, маючы асноўнай сваёй задачай—захаваць прынцыпы і метады сапраўды савецкага культурнага гандля.

Прадаваць мяса—культурна! Гэтага патрабуе ад нас партыя і ўрад, стварыўшы ўсе неабходныя ўмовы і прадпасылкі для ўзорнай арганізацыі савецкага культурнага гандля.

**А. РУБІН.**

# У НАРКАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Наркамунутгандаль БССР абавязаў Белхарчгандаль і Белкаапсаюз арганізаваць з 15 кастрычніка гандаль каўбаснымі вырабамі ў Слуцку, Полацку, Лепелі і Мазыры. Гандаль каўбаснымі вырабамі ў Мазыры будуць праводзіць два магазіны, Лепелі — два магазіны, Полацку — два магазіны і Слуцку—адзін магазін.

◆ У мэтах далейшага палепшання абслугоўвання спажыўцоў Наркамунутгандаль БССР абавязаў кіраўнікоў гандлюючых арганізацый і загадчыкаў магазінаў, гандлюючых мясам, штодзённа поўнасцю забяспечыць наяўнасць у магазінах рознастайнага асартымента мяса і мясапрадуктаў. У кожным магазіне павінны быць вывешаны прэйскуранты на кожны від мяса па ўпітанасці і толькі на тыя гатункі, якімі даны магазін гандлюе. Мяса і мясапрадукты (каўбасныя вырабы), а таксама птушка павінна прадавацца выключна чыстай вагой без адыходаў.

Усе магазіны, гандлюючыя мясам і мясапрадуктамі, павінны быць забяспечаны дробным разнавесам: 50 грам, 20 грам, 10 грам і 5 грам.

◆ Для правядзення ўсёй арганізацыйнай работы па прыёмцы сеткі гарадской спажывецкай кааперацыі загадам Наркома Ўнутранага Гандля БССР **т. Гурэвіча** створана спецыяльнае бюро ў складзе **т. Верба** (кіраўнік бюро) і **т. т. Кантара, Ціменка, Башнёва, Карпекова, Шыфа, Верэнчыкова, Рыбакова і Глікмана.**

◆ У адпаведнасці з дырэктывай Саюзнаркамунутгандля, Наркамунутгандаль БССР даручыў Белгандлю і дырэктару магазіна будматэрыялаў у Менску арганізаваць, пачынаючы з 10-га кастрычніка продаж будматэрыялаў з дастаўкай іх на дом пакупніку.

Зацверджана часовая шкала аплаты за дастаўку будматэрыялаў з магазіна на дом пакупніка ў залежнасці ад вагі, у размеры ад 1 рубля (да 10 кгр.) да 4 руб. (ад 101 кгр. і вышэй).

◆ У мэтах поўнага скарыстання выхада мясных субпрадуктаў Наркамунутгандаль абавязаў Горунутгандлі і канторы Белхарчгандля неадкладна арганізаваць продаж мясных субпрадуктаў праз спецыяльную гандлёвую сетку ў Оршы, Гомелі, Віцебску, Магілёве, Бабруйску, Полацку, Слуцку, Барысаве і Мазыры. Продаж мясных субпрадуктаў у Менску праводзіцца ва ўсёй спецыялізаванай сетцы па гандлю мясам, за выключэннем магазінаў, якія гандлююць вышэйшымі гатункамі мяса.

◆ Рознічная прадажная цана на беларускі сыр, выпрацоўваемы Менскім малочным заводам з цэльнага малака ўстаноўлена ў размеры 3 р. 50 к. за кгр.

Рознічная цана на шакаладнае малако, выпрацоўваемае з малака абрата, устаноўлена ў 1 р. 70 к. за літр і 85 кап. за бутэльку 0,5 літра.

◆ У пастанове аб упарадкаванні гандлю дражжамі Наркамунутгандль адзначае, што паасобныя рознічныя крамы праводзяць продаж дражжэй оптам па некалькі скрынак у адны рукі. Гэта выкарыстоўваюць спекулянты, якія скупаюць па некалькі скрынак па крамах і вывозяць дрожжы ў іншыя рэспублікі для перапрадажы.

У сувязі з гэтым Белбродтрэсту і дрожжавому заводу „Чырвоны золак“ забаронен водпуск дражжэй непасрэдна рознічным крамам без распараджэння і разнарадкі той арганізацыі, якой крамы падпарадкавачы. Гандлюючым арганізацыям забаронен уселякі продаж дражжэй оптам. Вінаватыя ў гэтым будуць прыцягвацца да судовай адказнасці.

Наркамунутгандль звярнуўся ў Наркаммесцпром з просьбай прыцягнуць да адказнасці работнікаў Белбродтрэста, вінаватых у разбазарванні дражжэй.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Правілы гандля сасіскамі і сардэлькамі.

### Агульныя палажэнні

1. Сасіскі і сардэлькі прадаюцца ў продмагазінах, ларках, палатках, павільёнах, сталовых, кафэ, рэстаранах, закусачных, піўных і праз спецыяльную развозную сетку, а таксама разносную сетку, на вакзалах і ў поездах.

2. Дастаўка сасісак і сардэляк у паказаную вышэй у п. I м стацыянарную рознічную сетку праводзіцца спецыяльнымі прыстасаваннямі для перавозкі мясапрадуктаў транспартам.

3. Сасіскі і сардэлькі ўкладваюцца ў спецыяльныя тыпавыя скрынкі ўмяшчальнасцю ў 25 кгр. сасісак і сардэляк (нэтта). Скрынкі павінны быць абіты знутры цынкам або бляхаю і снабжаны шчыльна прылягаючай крышкай.

4. Скрынкі павінны быць запламбіраваны і мець маркіроўку са зместам назвы фабрыкі, гатунка тавара, вагі нэтта, вагі тары, нумар скрынкі, а таксама мець ярлыкі з паказаннем даты і гадзіны выпуска фабрыкай тавара.

### Прыёмка

5. Прыёмка сасісак і сардэляк у скрынках праводзіцца лікам скрынак і па вазе „нэтта", паказанай на скрынках.

Пры прыёмцы павінна быць звернута асаблівая ўвага на цэласць скрынак і пломбаў.

6. Пры прыёмцы, паасобныя скрынкі могуць быць ускрыты на вытрымку для праверкі якасці і паказанай на скрынцы вазе сасісак і сардэляк.

7. У выпадку выяўлення пры прыёмцы непоўнавагавых скрынак ці недобраякасных сасісак і сардэляк, дырэктар магазіна (сталовай і т. д.) абавязан аб гэтым неадкладна скласці адпаведны акт з прыцягненнем асобы, якая даставіла тавар і прадстаўніка грамадскасці магазіна.

Акрамя таго, дырэктар магазіна (сталовай і т. п.) абавязан адмовіцца ад прыёмкі недобраякасных сасісак і сардэляк і звярнуць іх фабрыцы.

8. Фабрыка абавязана за свой кошт безадкладна папоўніць магазіну недастаўленую ці звернутую на фабрыку колькасць сасісак і сардэляк.

### Хаванне

9. Магазін (сталовая і т. п.) абавязан неадкладна па прыёмцы распакаваць усе скрынкі і падвесіць сасіскі і сардэлькі ў падсобным памяшканні з застаўленнем паміж паасобнымі радамі сасісак і сардэляк прамежка, які забяспечвае доступ паветра.

10. Падсобнае памяшканне, у якім хаваюцца сасіскі і сардэлькі, павінна мець вентыляцыю; вокны, дзверы павінны мець сетку для папярэджання доступа мух.

11. Гранічны тэрмін хавання сасісак і сардэляк у падсобным памяшканні, забяспечаным холадам—24 гадзіны, у незабяспечаным холадам—12 гадзін.

### Продаж у стацыянарнай сетцы.

12. Продаж сасісак і сардэляк праводзіцца як у халодным, так і гарачым відзе.

13. Сасіскі і сардэлькі ў халодным і гарачым відзе прадаюцца як па вазе, так і паштучна. Паштучна могуць прадавацца толькі стандартныя сасіскі і сардэлькі (сасіскі вагой у 35 і 50 грам, сардэлькі вагой у 70 і 85 грам, з адхіленнем ня больш 5—7 проц.).

14. Сасіскі і сардэлькі ў гандлёвым залі змяшчаюцца на мрамарных прылаўках, закрытых як зверху, так і з боку пакупніка шклом; пры адсутнасці мрамарных прылаўках—на шкляных ці эмаліраваных блюдах, пакрываемых марляй.

15. Для водпуска сасісак і сардэляк у гарачым відзе на кожным рабочым месцы прылаўка ўстанаўліваецца нікеліраваная ванначчка з двайным дном, умяшчальнасцю ў 10 літраў вады, якая награваецца электраэнергіяй.

16. Вада ў ванначцы павінна мяняцца 5—6 раз на дзень. Для забеспячэння хуткай замены вады ў ванначках, магазін (сталовая і т. п.) абавязан мець неабходны запас гатаванай гарачай вады.

17. Сасіскі і сардэлькі апускаюцца ў кіпячую ваду на 3—5 мінут, пасля чаго далейшае награванне вады павінна быць спынена і да продажу сасіскі і сардэлькі могуць заставацца ў гэтай нагрэтай вадзе не больш 15—20 мінут.

18. Для бесперашкоднага водпуска сасісак і сардэляк у гарачым відзе некаторы запас сасісак і сардэляк павінен заўсёды быць у ванначцы з гатаванай вадой, у якой, аднак, сасіскі і сардэлькі не павінны знаходзіцца звыш паказанай у п. 17 колькасці мінут.

19. Прадавец абавязан забіраць сасіскі і сардэлькі з ванначкі, карыстаючыся для гэтага шчыпцамі.

20. У магазінах і павільёнах, якія прадаюць сасіскі і сардэлькі ў гарачым відзе, павінны быць або частка свабоднага прылаўка, або спецыяльныя столікі, на якія падаюцца на талерках з прыборам і прыгатоўленай гарчыцай сасіскі і сардэлькі.

У ларках і палатках, якія прадаюць сасіскі і сардэлькі ў гарачым відзе, тавар адпускаецца пакупніку ў паперы.

21. Прадпрыемствы, якія прадаюць сасіскі і сардэлькі ў гарачым відзе абавязаны мець у продажы стандартныя булачкі вагой у 50 грам.

22. Прадпрыемствы, якія прадаюць сасіскі і сардэлькі ў гарачым відзе, абавязаны мець мастацкі афармленыя аб'явы аб продажу гарачых сасісак і сардэляк.

### Развозны і разносны гандаль.

23. Продаж сасісак і сардэляк у гарачым відзе праводзіцца на спецыяльных перасовачных цялежках, на якіх устанаўліваюцца скрынкі,—тэрмасы ўмяшчальнасцю ў 15 кгр.

24. Скрынкі-тэрмасы павінны мець шчыльныя крышкі і два аддзяленні—адно для хавання сасісак і сардэляк, другое для хавання булачак.

25. Скрынкі павінны быць знутры абіты ацынкованым жалезам або светлай бляхай.

Цялежкі павінны мець асобыя аддзяленні для хавання інвентара і белай паперы пэўнага фармата.

25. Перад змяшчэннем сасісак і сардэляк у скрынку-тэрмас, унутраная частка яе павінна быць прамыта гарачай вадой і насуха працёрта чыстым ручніком.

26. Перасовачныя цялежкі, якія прадназначаны для продажу гарачых сасісак і сардэляк, прымацоўваюцца да пэўных буйных магазінаў ці сталовых, якія снабжаюць іх гэтым таварам.

27. Сасіскі і сардэлькі ўкладваюцца ў скрынкі-тэрмасы ў гарачым відзе.

У выпадку астывання сасісак і сардэляк да моманту іх продажу, прадавец абавязан звярнуцца ў магазін (сталовую) і правесці абмен астыўшых сасісак і сардэляк на гарачыя.

28. Прадавец абавязан вымаць сасіскі і сардэлькі з скрынкі-тэрмаса, карыстаючыся шчыпцамі і падаючы сасіскі і сардэлькі пакупніку ў паперы.

29. На продаж у разнос на вакзалах і ў вагонах сасісак і сардэляк распаўсюджваюцца адпаведна пункты 23—28 гэтых правіл.

## Санітарныя правілы.

30. Прадаўцы, якія адпускаюць сасіскі і сардэлькі, павінны быць у санвопратцы, якая складаецца з белага халата, белага калпака і нарукаўнікаў.

31. Прадаўцы, якія адпускаюць сасіскі і сардэлькі, павінны штомесячна праходзіць мед. агляд, мець заўсёды чыстыя рукі і каротка-стрыжаныя ногці, добра прамытыя і ачышчаныя перад пачаткам работы пасля кожнага перапынку.

32. Перасовачныя цялежкі, на якіх праводзіцца продаж сасісак і сардэляк, павінны мець **санітарны пашпарт**.

33. Гандлюючыя арганізацыі, ў веданні якіх знаходзяцца прадпрыемствы, якія прадаюць сасіскі і сардэлькі, павінны абавязаць усіх прадаўцоў ведаць гэтыя правілы.

# ПАЛЕПШЫЦЬ ГАНДАЛЬ МЯСАМ

## ЗАГАД

### Па Народнаму Камісарыяту Унутранага Гандля БССР

10 кастрычніка 1935 г. **№ 352** г. Менск

Праведзенае абследванне старшым кансультантам правіл і норм гандля т. **Рубіным** пагатунковага разруба маса і аднясення частак яго да адпаведных гатункаў—падцвярджае, што гандлюючыя арганізацыі пытанню гандля мясам не ўдзеляюць дастатковай увагі.

З правіламі гандля мясам рад работнікаў магазінаў не знаёмы. Падрыхтоўчыя аперацыі па падрыхтоўцы мяса да продажу (разрубка) праходзяць абезлічана.

Персанальнай адказнасці за гатунковы разруб мяса да гэтага часу не ўстаноўлена і часта ставяцца на гэтую работу не дастаткова вопытныя рубшчыкі. У сувязі з гэтым мае месца аднясення мяса вышэйшых гатункаў у ніжэйшыя і наадварот, што прыводзіць к абману спажыўцоў.

Выходзячы з вышэйпаказанага загадваю.

1. Дырэктарам Белхарчгандля—т. **Ціменко** і Менхарчгандля т. **Рысю**, старшыні Горспажыўсаюза т. **Крэйніну** і кіраўнікам „Гастранома“ і ОРС‘аў гандлюючых мясам, у двухдзённы тэрмін вылучыць па ўсіх магазінах, праводзячых гандаль мясам, высока-кваліфікаваных спецыялістаў — сталых рубшчыкаў мяса на якіх ускласці персанальную адказнасць за правільны разруб мяса, аднясенне кожнай часткі мяса і правільны выхад гатункаў, згодна ўстаноўленай схемы раздзелкі мясных туш.

2. Устанавіць такі парадак, каб пры атрыманні з мясакамбіната мяса, дакладна і падрабязна ўказвалася ў суправаджальных дакументах: від мяса, упітанасць і становішча тэрмічнай апрацоўкі.

3. Гандлюючым арганізацыям для азнаямлення рубшчыкаў з гатунковай разрубкай мяса выдзяліць спецыяліста—урача інструктара для практычнага інструктажа рубшчыкаў, катэгарычна забараніўшы гатунковую разрубку мяса іншым асобам.

4. Аддзелу Гандлёвай сеткі і рэгулявання цэн т. **Рубіну** склікаць нараду рубшчыкаў мяса, прапрацаваць з імі ўсе практычныя пытанні, выяўленыя пры абследванні і выпрацаваць рад мерапрыемстваў па палепшанню гандля мясам.

5. Тав. **Рубіну** дабіцца ад саюзных органаў Галоўмяса і Наркамхарчпрома набыцця неабходнай колькасці плакатаў раздзелкі мясных туш з тым, каб гэтыя плакаты служылі наглядным дапаможнікам у кожным магазіне. Плакаты вывесіць на відным месцы пад шклом для даступнага агляда пакупнікамі і штодзённага кіраўніцтва ў рабоце работнікаў магазінаў.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. ГУРЭВІЧ**

# Перакідка прадуктаў з аднаго пояса ў другі забараняецца

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Унутранага Гандля СССР

30 верасня 1935 г. **№ 981** г. Масква.

Забараніць гандлюючым арганізацыям праводзіць перакідку і перасылку мяса-каўбасных вырабаў, свінакапчонасцяй, рыбы, селядцоў, тлушчаў, цукру і іншых прадтавараў па якіх устаноўлены розныя паясныя цэны, з мясцовасцей аднаго пояса ў мясцовасці другога пояса без спецыяльнага на то дазвола Наркамунутгандля СССР і Наркамфіна СССР.

Народны Камісар Унутранага
Гандля Саюза ССР **ВЕЙЦЕР**

# Пашырыць рэалізацыю хлеба-булачных вырабаў і мукі

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

8 кастрычніка 1935 г. № 688 г. Менск.

Праведзенае зніжэнне рознічных цэн на хлеб, хлеба-булачныя вырабы і муку, пашырэнне асартыменту выпечкі іх, а таксама магчымасць здавальнення попыта ў поўным асартыменце,—дазваляюць поўнасцю выканаць план рэалізацыі хлебапрадуктаў і ўзмацніць іх продаж.

Наркамунутгандаль БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Прапанаваць усім Горрайунутгандлям і кіраўнікам хлеба-гандлюючых арганізацый:

а) забяспечыць поўную загрузку ўсёй хлеба-гандлёвай сеткі поўным асартыментам дазволеных да продажу гатункаў хлеба і хлеба-булачных вырабаў, не дапушчаючых якіх бы там ні было перабояў;

б) праверыць правільнасць устаноўленых тэрмінаў завоза ў паасобныя крамы і ларкі кожнага віда хлеба і хлеба-булачных вырабаў;

в) забяспечыць дакладнае выкананне ўстаноўленага графіка завоза ў кожны магазін, не дапушчаючы ніякіх адхіленняў транспарта ад графіка.

2. Абавязаць хлебагандлюючыя арганізацыі ні ў якім выпадку не прымаць ад хлеба-выпякаючых прадпрыемстваў нестандартны хлеб, ці недобраякасныя хлеба-булачныя вырабы. Ва ўсіх выпадках пастаўкі недобраякаснага хлеба ці хлеба-булачных вырабаў абавязкова практыкаваць устаноўленыя дагаварамі санкцыі.

3. Прапанаваць хлеба-гандлюючым арганізацыям і Горрайунутгандлям пашырыць рэалізацыю мукі натурай усіх гатункаў, шляхам паўсямеснага завоза як у гарадскую, так і ва ўсю сельскую харчовую сетку ўсіх гандлюючых сістэм, звярнуўшы асаблівую ўвагу на ўзмацненне продажу высока-гатунковай мукі 75 проц.—30 проц. памола.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

---

# „У ПОШУКАХ ІГОЛКІ"

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

20 верасня 1935 г. № 627 г. Менск.

Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Праверкай, праведзенай Райунутгандлем Дзяржынскага раёна т. Салавейчыкам устаноўлена, што факты продажы ў Дзяржынскім Раймаге іголак толькі па 250 штук, аб чым пісалася ў газеце „Известия" за 14 верасня г. г. за № 213 пад загалоўкам „В поисках иголки" цалкам і поўнасцю падцвярджаюцца.

2. Даручыць нам. старшыні Белкаапсаюза т. Шабалтасу накласці спагнанне на старшыню Дзяржынскага Райсаюза за нерэагаванне на меўшыя месца ў раймаге факты здзекаў пры продажы іголак, а работнікаў раймага, даўшых распараджэнне аб продажу іголак выключна ў пачках па 250 штук—адхіліць ад работы.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **І. ВЕРБА**

# Узорны прыклад аховы соцыялістычнай маёмасці

## ЗАГАД

### Па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

7 кастрычніка 1935 г. № 348 г. Менск.

У ноч на 3-е кастрычніка г. г. пры абходзе сваёй тэрыторыі, вартаўнік Райхман Я. М. (трэст кафэ і рэстаранаў) заўважыў трох злачынцаў, якія праламіўшы сценку, залезлі ў склад, набралі ў скрынкі прадукты і збіраліся іх вынесці.

Аб гэтым т. Райхман заявіў паставому міліцыянеру, застаючыся сам на пасту. Прыбыўшы на месца, работнікі Крымінальнага Вышуку затрымалі злачынцаў.

Адзначаючы праяўленую т. Райхманам пільнасць у справе аховы соцыялістычнай маёмасці загадваю:

1. Дырэктару трэста рэстаранаў і кафэ выдаць т. Райхману Я. М. грашовую ўзнагароду ў размеры месячнага аклада.

2. Ад імя Наркамунутгандля БССР абвясціць падзяку т. Райхману.

3. Гэты загад прапрацаваць сярод асабовага склада каманд пажарна-вартавой аховы і вартаўнікоў.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

---

# У сектары таварных экспертыз белтаварбюро

Экспертыза кандзіцерскіх вырабаў Чэрнігаўскай фабрыкі „1-е мая", атрыманых базай Менскага Ваенгандля на суму 9.793 рубля паказала выключную недобраякаснасць прадукцыі. Замест вішнёвага лікёра, цукеркі аказаліся з патачнай і рознай ягаднай начынкай, этыкеткі цукерак былі прасалены, цукеркі на смак аказаліся горкімі і т. д.

На ўвесь тавар экспертызай зроблена ўцэнка (скідка) у суме 2427 р., што складае 35 проц. да агульнай сумы атрыманага тавара.

Другая партыя кандзіцерскіх вырабаў гэтай-жа фабрыкі на суму 4694 рубля, атрыманая гэтымі днямі, аказалася яшчэ больш горшай па якасці. Тавар забракаван як нягодны для продажу.

* *
*

Паўтара месяца таму назад сектарам таварных экспертыз быў забракаван вагон фанеры, адгружаный магазіну будматэрыялаў Менгандля Барысаўскім заводам „Комінтэрн" па прычыне злачынна-нядбайных адносін адпраўіцеля. Фанера грузілася навалам, не паказан гатунак, адсутнічала маркіроўка і інш.

Гэты ўрок быў улічан Барысаўскім заводам „Комінтэрн". Нядаўна гэтым-жа магазінам атрыман другі вагон фанеры. На гэты раз тавар аказаўся добраякасным, добра ўпакаваным, на кожным лісту паказан гатунак, маркіроўка тавара правільная і экспертыза прызнала тавар зусім здавальняючым для рэалізацыі спажыўцу.

**КРЭМЕР.**

# ЦЭНЫ

## Адзіныя цэны на мясныя субпрадукты

### Пастанова Наркамунутгандля БССР

7 кастрычніка 1935 г. **№ 685** г. Менск.

На падставе пастановы Наркамунутгандля СССР № 921 ад 28 верасня 1935 г. Наркамунтгандль БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

I. Устанавіць адзіныя рознічныя цэны на мясныя субпрадукты 2-й і 3-й катэгорыі ў рублях і капейках за адзін кілаграм:

| | Руб. | Кап. |
|---|---|---|
| 1. Галовы буйнай рагатай жывёлы без языка і мазга | 1 | 70 |
| 2. Галовы авечыя без языка з мазгом | — | 60 |
| 3. Лёгкія | 1 | 40 |
| 4. Селезёнка свіная | 1 | 40 |
| 5. Калтык і дыяфрагма | 2 | — |
| 6. Пікальнае мяса | 2 | — |
| 7. Гарлавіна і трахэя | — | 85 |
| 8. Ногі (путавы састаў) буйнай рагатай жывёлы ашпараныя без капыт | 1 | — |
| 9. Ногі бараннi ачышчаныя | — | 60 |
| 10. Ногі свіныя ачышчаныя | 1 | 50 |
| 11. Вушы гавяжжы ачышчаныя | 1 | 20 |
| 12. Вушы свіныя ачышчаныя | 1 | 40 |
| 13. Рубец ачышчаны | — | 90 |
| 14. Сычуг ачышчаны | — | 75 |
| 15. Жалудкі свіныя ачышчаныя | — | 90 |
| 16. Косці бэконныя | 1 | 50 |
| 17. Косці каўбасныя | 1 | — |
| 18. Сэрца буйнай рагатай жывёлы | 4 | — |
| 19. Сэрца свіное | 3 | 30 |
| 20. Вымя | 5 | — |
| 21. Мяса галавы буйнай рагатай жывёлы і цялят | 4 | 65 |
| 22. Мясная абрэзь | 3 | 30 |
| 23. Мясакосны хвост буйнай рагатай жывёлы | 3 | 30 |
| 24. Мясакосны хвост свіней | 1 | 70 |
| 25. Галовы буйнай рагатай жывёлы з мазгамі без языка | 3 | 85 |
| 26. Галовы свіней з мазгамі без языка | 4 | 20 |
| 27. Губы апрацаваныя буйнай рагатай жывёлы і цялят | 2 | — |

II. Даручыць Горгандлям арганізаваць рэалізацыю збоя (субпрадуктаў) у адкрытай рознічнай сетцы.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

## Адпускныя цэны на плодагародніну

### Пастанова Наркомунутгандля БССР

17 верасня 1935 г. **№ 625** г. Менск.

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР № 1883 ад 26. VIII—35 г. „Аб стаўках падатка са зварота“, у змену пастановы НКУГ БССР № 377 ад 7.VII-35 г.:

1. Устанавіць аптова-адпускную цану на наступныя віды прадукцыі, выпрацоўваемай сістэмай Белплодагародніны і Белкаапплодагародніны з ураджая 1935 г. (на I гатунак франко-вагон станцыя адпраўлення за адну тону ў рублях):

Цеста яблычнае—1130 руб. клюквеннае—1508 р., бруснічнае і чарнічнае—1508 р., слівачнае—1910 р., сульфіцыраваная маліна і клубніка—2842 р., сульфіцыраваная вішня і сліва—2040 р., сульфіцыраваная чарніка—1364 р., брусніка мочаная—1462 р., сокі вішнёвыя—1953 р., сокі галубічныя і чарнічныя—1648 р., сокі брусьнічныя і клюквенныя—1869 р., сокі яблычныя і грушавыя—1722 р., сокі малінавыя і клубнічныя—2873 р.

2. Устанавіць аптова-адпускную цану на новыя віды варэння, выпрацоўваемага сістэмай Белплодагародніны і Белкаапплодагародніны:

Варэнне бруснічнае—3300 р., грушавае—3000 р., слівачнае без костачак—3300 р., слівачнае з костачкамі—3200 р.

3. Устанавіць адпускныя аптовыя цэны на 2 гатунак—на 10 проц. ніжэй цэн I гатунка, на III гатунак—на 20 проц. ніжэй цэн I гатунка, на IV гатунак—на 40 проц. ніжэй цэн I гатунка.

Увага: Варэнне і павідла дапускаюцца ў рэалізацыю I і II гатункаў.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **І. ВЕРБА**

## Адзіныя цэны на свежыя фрукты

### ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

10 кастрычніка 1935 г. **№ 693** г. Менск.

На падставе пастановы НКУГ СССР № 802 ад 23 жніўня 1935 г. аб адзіных цэнах на свежыя фрукты Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Устанавіць адзіную рознічную прадажную цану на зімовыя яблыкі „антонаўка“ і на асеннія „апорт“ і „шпрэфлінг“:

на вышэйшы гатунак—2 р. 50 к.
на першы гатунак . . 2 р. —
„ другі „ . . . . 1 р. 70 к.
„ трэці „ . . . . 1 р. 40 к.

2. Устанавіць адзіную рознічную цану на крымскія яблыкі „шафран“ чырвоны і паласаты за I гатунак—6 руб. за *кг.*, вышэйшы—на 20 проц. вышэй цаны першага гатунка, II гатунак—на 20 проц. ніжэй I-га гатунка і трэці гатунак—на 35 проц. ніжэй першага гатунка.

3. Устанавіць рознічную прадажную цану на сухія белыя грыбы:

грыбы шляпка вышэйшага гатунка—27 р. 50 к. за *кг*
„ „ „ I гатунка—24 р. — „ „
„ „ „ II „ —20 р. 50 к. „ „
„ „ „ III „ —15 р. 40 к. „ „
грыбы прабель . . . . . . . . 13 р. 70 к.
„ марынаваныя белыя . . . 3 р. 75 к.

4. Устаноўленыя цэны на яблыкі пунктам I-м гэтай пастановы у весці з часу атрымання яе на мясцох тэрмінам да 15 лістапада 1935.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **І. ВЕРБА**

# ПРЕЙСКУРАНТ ЕДИНЫХ ОТПУСКНЫХ ЦЕН.

## На чулочно-носочные изделия Государственной Местной Трикотажной промышленности Наркомместпрома РСФСР і БССР

| №№ п/п. | Артикул | Наименование изделий | Волокно и № пряжи | Единая отпускная цена за десяток пар в рубл. и коп. |
|---|---|---|---|---|
| | | **А. Чулки женские.** | | |
| 0 | 3 | Чулки женские | Хл. бум. № 32/1 | 15—50НКМП БССр |
| 1 | 4 | „ „ | „ 32/2 | 15—50 |
| 2 | 6 | „ „ | „ 32/2 | 10—00 |
| 3 | 7 | „ „ | „ 32 | 16—00 |
| 4 | 8 | „ „ | „ 32 | 16—50 |
| 7 | 12 | „ женск. со швом | „ 50/2 | 35—00 |
| 8 | 13 | „ | „ 50/2 | 34—00 |
| 9 | 25 | „ „ со швом | Вискоз. № 200/д | 39—00 |
| 10 | 26 | „ „ | „ 150/д | 41—00 |
| 11 | 27 | Чулки женские | Хл. бум. № 50/2 д. вискоз. 200/д | 40—00 |
| 12 | 28 | „ ажур. | вискоз № 150/д | 51—00 |
| 13 | 30 | „ | Хл. бум. 70/1 (виск.) 250д. | 50—00 |
| 14 | 33 | „ | Хл. бум. № 50/2 | 78—00 |
| 15 | 36 | „ мерсериз. | „ № 80/2 | 100—00 |
| 16 | 37 | „ со стр. | „ № 80/2 | 110—00 |
| 17 | 42 | „ „ | Вискоз. № 120/д | 110—00 |
| 18 | 49/8 | „ гольф | Шерсть № 14/2 | 67—00 |
| 19 | 49/10 | „ | „ № 14/2 | 73—00 |
| 20 | 51 | „ | „ | 110—00 |
| 21 | 52 | „ | „ | 72—00 |
| 22 | 54 | „ | Грубошерсть | 40—00 |
| 23 | 55 | „ | „ | 43—00 |
| 24 | 56 | „ | Шерсть | 55—00 |
| 25 | 57/8 | Гетры | „ камв. 24/2 | 48—00 |
| 26 | 57/10 | „ | „ 24/2 | 55—00 |
| 27 | 57/12 | „ | „ 24/2 | 73/00 |
| 28 | 58 | „ | „ 23/2 | 55—00 |
| 29 | 59/8 | „ | „ 23/2 | 45—00 |
| 30 | 59/10 | „ | „ 23/2 | 47—00 |
| 31 | 60 | „ | Хл. бум. 16/2 | 36—00 |
| | | **Б. Носки мужские.** | | |
| | 63 | Носки мужские | Хл. бум. 24/1 | 15—00НКМП БССР |
| 32 | 64 | „ | Хл. бум. 24 | 15—00 |
| 33 | 66 | „ | „ 24 | 16—00 |
| 36 | 70 | Носки мужские | Хл. бум. 24/1—2 конца | 20—00 |
| 37 | 72 | „ | Хл. бум. 32/2 | 22—00 |
| 38 | 73 | „ | „ 38/2 | 23—00 |
| 39 | 76 | Носки женские | Хл. бум. 50/2 | 25—00 |
| 40 | 77 | „ мужские | „ 50 2 2 конца | 30—00 |
| 41 | 78 | „ женские | „ 80/2 | 30—00 |
| 42 | 81 | „ мужск. рисунчат. | „ 44/2—50/2 | 42—00 |
| 43 | 82 | „ „ | „ 60/2—100/2 | 47—00 |
| 44 | 84 | „ „ | „ с визкозн. | 47—00 |
| 45 | 86 | „ „ | „ „ | 53—00 |
| 46 | 88 | „ женские | Вискозн. 200/д | 33—00 |
| 47 | 89 | Носки женск. с отвор. | „ 200/д | 36—00 |
| 48 | 90 | „ „ „ | Хл. бум. 30/2 с вискоз. 200/д | 30—00 |
| 49 | 91 | „ „ „ | „ „ | 35—00 |
| 50 | 92 | „ мужские | Шерсть | 78—00 |
| 51 | 95 | „ „ | „ | 87—00 |
| 52 | 98 | „ „ | Грубошерсть | 33—00 |

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР

г. Минск, Советская ул. Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм — МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской конторе Госбанка № 160/10076.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

### Пищевкусовая группа.

Соки клюквенные в любом количестве по 24 р. 30 к. за декалитр. Тоже брусничные—25 р. 20 к., соки яблочные—10 000 декалитров—18 р. декалитр., франко-станция отправления. Расчет акцептом.

Тесто яблочное—50 тонн—1150 р. тонна, тесто брусничное—20 тонн 1443 руб. тонна, франко-склад артели Витебск. Расчет акцептом.

Клюква—50 тонн, по ценам Конвенцбюро, тара по прейскуранту СТО. Расчет акцептом.

Капуста квашеная—55 тонн—260 руб. тонна, расчет акцептом.

Тесто яблочное—100 тонн—1200 руб. тонна, брусничное—100 тонн—1508 руб. тонна, клюквенное—100 тонн—1508 руб. тонна, франко-станция—пристань, расчет акцептом.

Мед паточный искусственный—30 тонн—2000 руб. тонна, расчет акцептом.

Варенье яблочное в сиропе—I сорта—100 тонн—3500 руб. тонна, франко-станция отправления. Расчет акцептом.

Тесто яблочное II-го сорта—50 тонн—1170 руб. тонна, франко-завод. Расчет акцептом.

Тесто брусничное—300 тонн—2000 р. тонна, франко-станция отправления. Расчет акцептом.

### Промтоварная группа.

Топоры плотничьи белорусского образца—15.000 штук—7 р. 30 к. штука, франко-склад производства. Расчет акцептом.

Оси со втулкой № 2—800 штук по 25 р. 30 к. штука; замки амбарные—2000 штук,—6 р. 25 к. штука.

Чуни веревочные—20 тыс. пар—3 р. 50 к. пара, франко-склад артели, расчет акцептом.

Веревки из льняных отходов—5 тонн—2640 р. тонна, расчет акцептом.

Пояса шелковые—10 000 штук—2 р. 85 к. за штуку.

Тесьма черная—10 000 метров—20 коп. за метр. франко-производство; расчет—25 проц. аккредитивом и остальные акцептом.

Гуталин в стеклянной посуде—3 р. 30 к. за дюжину, расчет акцептом.

Фанерные чемоданы—3000 штук разных размеров по цене от 7 р. 99 к. до 11 р. 76 к. Расчет акцептом.

Шкафы сосновые для колхозных библиотечек—150 штук—50 р. штука. Расчет акцептом.

Пуговицы перламутровые I и II сортав разном ассортименте по цене от 23 р. 44 к. до 40 р. 30 к. за сотню—франко-склад производства. Расчет акцептом.

### Лесохимическая группа.

Колесная мазь-галипотная—500 тонн—433 р. тонна, франко-вагон станция отправления.

Деготь химический искусственный—300 тонн—500р. тонна, франко-вагон станция отправления, расчет акцептом.

Торфяная смола—3000 тонн—120 р. тонна.

Уголь березовый—200 тонн—240 руб. тонна; тоже сосновый 120 тонн—254 р. тонна, деготь берестовый—6 тонн—2065 р. тонна, деготь искусственный—30 тонн—715 р. тонна, пек березовый—10 тонн 765 р. тонна; коломазь-галипот—100 тонн—416 р. 70 к. тонна, франко-вагон станция отправления. Расчет акцептом.

Фосфор красный—по 6503 руб. за тонну, тоже желтый—6502 р. 70 к. за тонну, франко-вагон станция отправления. Расчет акцептом.

Лак асфальтовый—100 тонн—937 р. тонна, франко-завод.

Сани городские и крестьянские по цене 35 р. 43 к. крестьянские и 37 р. 48 к. городские.

### Тара.

Корзины багажные—63 см.—500 штук—15 р. 05 к. штука, 72 см.—200 штук—16 р. 74 к. и 90 см—100 штук—26 р. 72 к. Расчет акцептом.

Ящики тарные плетенные 20—30 тыс. комплектов—3 р. 80 к. за комплект.

Пробки бутылочные деревянные березовые—34.000 штук—30 р. за тысячу, расчет акцептом.

Корзины под хим. балоны—30 тыс. штук—2 р. 30 к. штука, франко-производство. Расчет акцептом.

### Хозяйственные товары.

Розетки деревянные разных размеров по 70 р. за тысячу штук, франко-станция отправления, расчет акцептом.

Обычайка сосновая—250 коп.—33 р. копа, франко-склад.

Дрань штукатурная—500.000 штук—20 р. 51 к. за тысячу штук.

## Спрос товаров.

Белила свинцовые, тоже цинковые, охра золотистая, сурик свинцовый, ультрамарин, краска эмалевая, разные лаки, анилиновые краски, москательные товары, клей столярный, кислота соляная, тоже серная, наждачное полотно, наждачная бумага, пемза натуральная, сода каустическая, воск пчелиный, толь кровельный, фанера листовая, стекло оконное, кисти малярные, канифоль, шпагат, картон, обои, гипс, известь, мел.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар I. I. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 1170. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 2950.